**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск —8.21 16.16, 7.55;
Віцебск —8.17, 15.59 7.42;
Магілёў —8.10, 16.05 7.55;
Гомель —8.00, 16.09, 8.09;
Гродна —8.35 16.32, 7.57;
Брэст —8.28, 16.40, 8.12.

**МЕСЯЦ:**

Першая чвэрць 13 студзеня.

**ІМЯНІНЫ:**

Васілія (Стары Новы год); Фелікса, Гіляра



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

14 студзеня 1992 г.
аўторак, № 7 (21785)




# РозГАЛАС

## ЗАПАСНЫ ВАРЫЯНТ НОВАГА ГОДА

**Эвалюцыя календара, як вядома, дала пабочны эфект: утварылася нечуванае свята — Стары Новы год.**

**Што ж у ім старога?**

**Шмат! Гэты вечар на святога Васілія славіўся шчодрай (багатай) куццёй з грачанымі і аўсянымі блінамі, свінымі каўбасамі, салцісонам... Не менш багатым, чым святочнае меню, быў і выбар дзявочых гаданняў: «адкуль сабака забрэша», «куды чаравік ляжа», «колькі штакецін абхопіш...»**

**А што ж у ім новага?**

Самае новае і нечаканае, як заўсёды, само жыццё. І звычайна здараецца так, што доўгачаканае 1 студзеня надыходзіць раптоўна, застае нас у зблытаных планах і настроях... Напэўна, для таго і захаваўся гэты запасны варыянт — Стары Новы год, каб даць нам магчымасць папраўкі. Павіншаваць тых, каго забылі; аддзячыць таго, каму вінаваты; пачаць жыць так, як хочацца, а не як выходзіць, — словам, яшчэ раз пачаць усё з першага дня. З сённяшняга. З 14 студзеня. Скарыстайце гэты шанц.

## ЧАРГОВАЯ СУСТРЭЧА Ў ПРАМЫМ ЭФІРЫ

**15 студзеня ў 19 гадзін 35 мінут на Беларускім тэлебачанні ў прамым эфіры адбудзецца чарговая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіча з тэлегледачамі. Кіраўнік беларускага парламента будзе весці размову аб сённяшняй сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы, лібералізацыі цэн, прыватызацыі маёмасці і іншых надзённых праблемах, а таксама адкажа на пытанні жыхароў Беларусі.**

**Людміла ДРАЗДОВА.**

## Дарэмна абрадаваліся

Апошнімі днямі сэрцы аматараў спіртнога сагрэла чутка, што яго будуць адпускаць без купонаў, г. зн. за чыстыя рублі, калі не ўлічваць талоны...

Як паведамілі ў Міністэрстве гандлю рэспублікі, у якім, дарэчы, стаміліся адказваць наконт гэтага, без купонаў за гарэлкай няма чаго і ісці. Толькі ў двух выпадках прадугледжаны бескупонны (а таксама і бесталонны) продаж: на вяселле і пахаванне, прычым па нормах, якія ўстаноўлены выканкомамі. Карацей, каб выпіць свабодна, за адны рублі, — трэба або ажаніцца, або, прабачце, памерці. (Праўда, невядома, як рэалізаваць жаданне выпіць у апошнім выпадку).

Зрэшты, можна яшчэ набыць гэтак жа свабодна па камерцыйнай цане, г. зн. ёсць яшчэ адзін выхад — трэба добра зарабляць. Але тут ужо так стаіць пытанне: або піць, або зарабляць.

## Рубель купон беражэ?

КОБРЫН. **(І. Сідарук).** Каб неяк змякчыць і ўціхамірыць купонна-рублёвыя страсці, Кобрынскі гарвыканкам прыняў, на наш погляд, даволі справядлівае рашэнне: з 10 студзеня разлік за пакупкі коштам да 1 рубля праводзіцца «без падмацавання» купонамі.

МЫ МЯРКУЕМ ТАК. А ВЫ?

## БЕЛАРУСЬ МАЕ АРМІЮ. ПАКУЛЬ НЯЯСНА — ЯКУЮ

**Тое, што Узброеныя Сілы на тэрыторыі Беларусі (за выключэннем стратэгічных войскаў) перайшлі ў падпарадкаванне ўраду рэспублікі, — сенсацыяй не стала і не магло стаць: альтэрнатывы гэтаму кроку не было. Нечаканасцю стала іншае, — каб прыняць відавочнае рашэнне, Вярхоўнаму Савету спатрэбілася цэлы дзень дыскутаваць і перагаласоўваць адно і тое ж пытанне. Асабліва шчыравалі ў адмаўленні напрацаваных дакументаў па вайсковых праблемах дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі, якія з такім запалам выступалі за адзінства арміі, што, слухаючы іх, магло здацца, што гэта адзіная армія ўсё яшчэ існуе.**

**С. Шушкевічу, як ініцыятару нечарговага разгляду вайсковых праблем, давялося выслухаць шмат незаслужаных папрокаў — у развале Узброеных Сіл, у адыходзе ад прынцыпаў СНД і г. д. І ўсё ж тыя, хто прапаноўваў адкласці пытанне аб арміі да няпэўных часоў, — у рэшце рэшт вымушаны былі ўступіць развважнаму сэнсу. Праўда, у пастанову ўвайшла іх прапанова аб неабходнасці экстранных перамоў на вышэйшым узроўні па праблеме будучыні Узброеных Сіл, — але спадзяванні на значны плён гэтых сустрэч невялікія. Цягнік часу даўно ўжо мінуў тую станцыю, на якой магчыма было захаваць адзіны кантроль над адзінай арміяй.**

**Такім чынам, Беларусь насуперак волі значнай часткі сваіх не надта дэмакратычна выбраных дэпутатаў набывае адзін з самых галоўных атрыбутаў суверэнітэту — кантроль над арміяй. Беларускія хлопцы, прызваныя ў войска мінулай восенню, ужо ў бліжэйшыя тыдні прынясуць прысягу на вернасць сваёй рэспубліцы і яе народу. Факт адметны яшчэ і тым, што ўпершыню ў новай гісторыі на вайсковых пляцах будзе гучаць беларуская мова: вырашана, што менавіта на ёй павінна прымацца прысяга.**

**Яшчэ адна навіна, якую лёгка можна было прадказаць, — пераўтварэнне Міністэрства па справах абароны ў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Справа тут, зразумела, не ў форме, а ў змесце дэфініцыі: Міністэрству абароны належыць заняцца ўсім комплексам абаронных праблем.**

**Мяркуючы па размовах з многімі дэпутатамі, праблематычна выглядаюць шанцы заняць крэсла міністра абароны ў П. Чавуса, цяперашняга міністра па справах абароны РБ. Бурнай была рэакцыя залы на яго не надта зграбныя кампліменты ў адрас Старшыні Вярхоўнага Савета, ад якіх веяла «старымі добрымі часамі» і якія, здаецца, прымусілі няёмка адчуць сябе С. Шушкевіча. Як бы там ні было, да прызначэння міністра абароны кантроль над усімі Узброенымі Сіламі і адказнасць за захаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўскладаюцца на камандуючага войскамі Беларускай акругі генерал-палкоўніка А. Кастэнку.**

**Як далей будуць разгортвацца падзеі вакол Узброеных Сіл? Зусім відавочна, што працэс «суверэнізацыі» сёння спыніць немагчыма, а таму нацыянальныя арміі ўжо ў бліжэйшыя месяцы стануць рэальнасцю. Галоўнае нявысветленае пакуль што пытанне, — якім чынам будуць вылучаны стратэгічныя сілы, што павінны перайсці пад аб'яднанае камандаванне. Гэта тэма ўжо стала дамінуючай у спрэчцы за Чарнаморскі флот. Беларусі таксама давядзецца ўшчыльную заняцца пытаннем: што аднесці да стратэгічных сіл на сваёй тэрыторыі. Цэнтр у асобе Я. Шапашнікава будзе ўсяляк настойваць на тым, каб як мага больш расшырыць пералік стратэгічных сіл. (Характар сучаснай арміі дазваляе прылічыць да стратэгічных амаль усе наземныя і паветраныя войскі, не кажучы ўжо пра флот).**

**Галоўным апанентам цэнтра ў спрэчцы за армію будзе Украіна, якая, магчыма, выступіць нават за тое, каб пад аб'яднаным камандаваннем засталіся толькі стратэгічныя ядзерныя ўзбраенні. За кім пойдзе Беларусь? Ей, як ужо не аднойчы здаралася, выбіраць хутчэй за ўсё не давядзецца. Той, хто спазняецца з рашэннямі, вымушаны падладжвацца пад сітуацыю, а не кіраваць ёю.**

**Валянцін ЖДАНКО,**
**палітычны аглядальнік.**



Іх часта можна бачыць у адным кабінеце на прыёме асабліва складанага хворага ці ў аперацыйнай, а іншы раз — калі яны крочаць побач па вуліцы пасля завяршэння цяжкай аперацыі. Гэта заслужаны ўрач рэспублікі Аляксей Юльянавіч Букач і яго сын кандыдат медыцынскіх навук Вячаслаў Аляксеевіч. Абодва яны артапеды, спецыялісты высокага класа, працуюць у Брэсцкай абласной бальніцы не адзін дзесятак гадоў.

Бацька і сын **Букачы (на здымку)** — выпускнікі Мінскага медыцынскага інстытута.

**Фота Эдуарда КАБЯКА.** (БЕЛТА).

## Менш згаворлівыя — сяляне

**Брэсцкая вобласць.** «На рабоце аднавіць» — так гучала рашэнне суда ў адносінах да кожнага другога, звольненага з працы ў вобласці ў мінулым годзе. Іншымі словамі, кожны другі работнік быў звольнены незаконна.

## Чакаць засталося 4 гады

**Будаўніцтва новай бальніцы на 300 ложкаў пачалося ў Асіповічах. Відаць, такога старога і непрыстасаванага будынка, як тут, няма ўжо нідзе.**

**Зараз ідзе ўзвядзенне гэтага бальнічнага комплексу, на які будзе затрачана каля 20 мільёнаў рублёў. Работы мяркуецца завяршыць за чатыры гады.**

## Працягваецца прызнанне Беларусі

Яшчэ дзве дзяржавы — Партугалія і Індыя прызналі незалежнасць Рэспублікі Беларусь.

У пісьмах, што паступілі на імя С. С. Шушкевіча, выказваецца гатоўнасць неадкладна ўстанавіць дыпламатычныя адносіны з незалежнай дзяржавай Беларусь. Кіраўнікі гэтых краін разлічваюць таксама на цёплыя і сяброўскія, у духу супрацоўніцтва адносіны паміж народамі сваіх краін і Беларусі.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

ПАВЕДАМЛЯЕ БелаПАН

У НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ

## МОВУ ВЫБІРАЕ ПАКУПНІК

**З 1 студзеня ў Эстоніі ўвайшло ў сілу патрабаванне Закона аб мове, у адпаведнасці з якім ў сферы паслуг і гандлі абслугоўваючы бок павінен звяртацца да абслугоўваемага на дзяржаўнай мове. Дыялог павінен працягвацца на мове, выбранай пакупніком і кліентам. Аб гэтым паведамілі ў дэпартаменце па пытаннях мовы.**

## ЗНОЎ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВАРЫЦЬ КАШУ З СЯКЕРЫ?

Урад Эстонскай Рэспублікі мае намер спыніць дзяржаўнае забеспячэнне войскаў, якія знаходзяцца ў Эстоніі, мучнымі вырабамі і крупамі. Такое паведамленне зрабіў саветнік аддзела абароны і аховы граніц Дзяржаўнай канцылярыі Удо Хельмі. Ва ўмовах, калі Расія блакіруе пастаўкі ў Эстонію збожжа, былы цэнтр патрабуе ад Эстонскай Рэспублікі ў 2, 2 раза павялічыць забеспячэнне войскаў мучнымі вырабамі, адзначыў Хельмі. Напрошваецца вывад, што Расія фактычна не хоча карміць сваіх салдат. Усім воінскім часцям накіраваны паведамленні аб тым, што забеспячэнне іх мукой і крупамі спыняецца.

## У ЛАТВІІ ЎЖО НЯМА МІЛІЦЫІ

**Міністр унутраных спраў Латвіі Зіедоніс Чэверс паведаміў, што пасля датэрмінова праведзенай рэарганізацыі 6 студзеня дэпартамент міліцыі пераўтвораны ў дэпартамент паліцыі, і цяпер вартавыя парадку Латвійскай Рэспублікі называюцца паліцэйскімі.**

**Аднак усё яшчэ не хапае 1.700 паліцэйскіх да поўнага ўкамплектавання штатаў. Пачалося папаўненне радавога саставу, у паліцыю ідуць мясцовыя жыхары. Больш складанае становішча з афіцэрскімі кадрамі. Прафесіяналы выходзяць на пенсію, а змену ім акадэмія выпусціць толькі праз 3 гады.**

## НА КАГО ПРАЦУЮЦЬ?

У горадзе Украінску Данецкай вобласці мясцовы радыёвузел спыніў перадачы Украінскага радыё. Цяпер у эфіры гучаць толькі маскоўскія праграмы. Можа, дзеля ісціны, перайменаваць Украінск у Расійск?

## АПАЗІЦЫЯ ПРАДСТАЎЛЯЕ

Над уласнай канцэпцыяй эканамічнай стабілізацыі ў рэспубліцы працуюць цяпер дэпутаты, якія ўваходзяць у парламенцкую апазіцыю. Асноўныя моманты гэтай канцэпцыі: не чакаць прыватызацыі большай часткі дзяржаўнай уласнасці, а ісці ў рынак з існуючай формай уласнасці на прадпрыемствах, даўшы ім самастойнасць у камерцыйнай дзейнасці і гандлі таварамі.

Урад пры гэтым не павінен займацца пераразмеркаваннем даходаў і датаваць тыя ж прадпрыемствы, што блізкія да фінансавага краху.

## БОГ У ДАПАМОГУ

**Архітэктурна-будаўнічая майстэрня Беларускай каталіцкай грамады на чале з архітэктарам Уладзімірам Папругай узялася за праектаванне новага касцёла ў вёсцы Межаны пад Браславам.**

**Храм будзе ўзведзены на месцы разбуранага ў 80-я гады.**

У ДЗЯРЖКАМПРАЦЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Зацверджана Адзіная тарыфная сетка рабочых і служачых народнай гаспадаркі рэспублікі

На пасяджэнні калегіі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай ахове насельніцтва разгледжана і зацверджана Адзіная тарыфная сетка рабочых і служачых народнай гаспадаркі рэспублікі. Яна змяшчае шкалу тарыфных каэфіцыентаў па разрадах работнікаў усіх галін народнай гаспадаркі, пачынаючы з рабочых ніжэйшага кваліфікацыйнага ўзроўню і заканчваючы кіраўнікамі міністэрстваў і ведамстваў.

Адным з галоўных прынцыпаў, што былі пакладзены ў аснову Адзінай тарыфнай сеткі, з'явілася ліквідацыя ранейшай дыспрапорцыі ў аплаце працы работнікаў, занятых у вытворчай ці невытворчых галінах народнай гаспадаркі. У прыватнасці, пры распрацоўцы тарыфных ставак і акладаў быў забяспечаны апераджальны рост заработнай платы работнікаў асветы, аховы здароўя і культуры.

Так, пры агульным павелічэнні заработнай платы па народнай гаспадарцы ў 2 разы аклад настаўніка, які мае вышэйшую адукацыю, павышаецца з 360 рублёў да 850, ці ў 2,4 раза. Акрамя гэтага, павышаны размеры дадатковай аплаты за праверку сшыткаў у 2,5 раза, за класнае кіраўніцтва.

Настаўнікам хіміі, фізікі і біялогіі аплата ў размеры 30 руб. за праверку сшыткаў устаноўлена ўпершыню. З улікам дадатковай аплаты, напрыклад, заработак настаўніка-мовазнаўцы вышэйшай катэгорыі — класнага кіраўніка складзе не 1.130, а 1.305 рублёў (75 рублёў дадаткова за праверку сшыткаў і 100 рублёў за класнае кіраўніцтва).

У ахове здароўя аклад павялічаны з 410 да 960 рублёў, ці ў 2,3 раза. Такі ж прырост акладаў устаноўлены і для ўрачоў-хірургаў. Па тарыфнай сетцы ён вызначаны ў размеры 1.050 рублёў замест 460 рублёў раней.

Па ўзроўню тарыфных ставак спецыялісты вядучых прафесій гэтых галін былі прыраўнаваны да спецыялістаў базавых галін народнай гаспадаркі (энергетыкі, машынабудавання, хімічнай прамысловасці і іншых).

У сферы вышэйшай адукацыі аклад прафесара, доктара навук, павышаецца з 970 рублёў да 2.100 рублёў, ці ў 2,2 раза; дацэнта, які мае вучоную ступень — з 690 да 1.670 рублёў, ці ў 2,4 раза.

У сферы культуры аклад артыста драмы ІІ-й катэгорыі павышаецца з 410 да 930 рублёў, ці ў 2,3 раза; кінамеханіка ІІ-й катэгорыі з 310 да 680 рублёў, ці ў 2,2 раза; культарганізатара — з 300 да 680 рублёў, ці ў 2,3 раза.

Разам з агульным павелічэннем тарыфных ставак і акладаў тарыфная сетка забяспечвае больш абгрунтаваную дыферэнцыяцыю ў аплаце працы ў залежнасці ад кваліфікацыі: разрыў паміж тарыфнымі стаўкамі па разрадах складае 10—11 працэнтаў. Калі ў ранейшых умовах аплаты працы розніца паміж службовымі акладамі спецыялістаў розных катэгорый вагалася ад 10 да 50 рублёў, то ў новых умовах яна дасягае 150, а ў некаторых выпадках 250 рублёў.

Такі падыход забяспечыць належнае стымуляванне павышэння кваліфікацыі работнікаў, што павінна станоўча адбіцца на якасці абслугоўвання насельніцтва.

У выніку павышэння сваёй кваліфікацыі службовы аклад урача-хірурга можа быць павялічаны з 850 рублёў (урач-інтэрн) да 1.400 рублёў (урач-хірург вышэйшай катэгорыі), настаўніка — з 760 да 1.130 рублёў.

Устаноўленыя ў адзінай тарыфнай сетцы месячныя тарыфныя стаўкі па кожнаму разраду для работнікаў бюджэтных арганізацый і ўстаноў з'яўляюцца мінімальнымі і ўяўляюць сабой дзяржаўныя гарантыі ў галіне аплаты працы. Размер заработнай платы можа павышацца ў выглядзе надбавак і прэмій за высокія дасягненні ў працы.

**Служба інфармацыі**
**Савета Міністраў**
**Рэспублікі Беларусь.**

## МАЦІ МЯКІНЕН: «НАШ ДОМ — ВАША КРЭПАСЦЬ...»

**Усяго за год з нечым каля 800 сем'яў ваеннаслужачых, якія выведзены з Германіі і сталі зараз пухаўчанамі, змогуць атрымаць асобныя кватэры еўрапейскага класа ў мікрараёне Новая Зара.**

**У гэтым афіцэраў і прапаршчыкаў запэўніў не толькі нямецкі бок, які выдзеліў сродкі на будаўніцтва, але і адна з буйнейшых будаўнічых фірм Фінляндыі «Хака», што ўзяла на сябе абавязкі генеральнага падрадчыка.**

**Да снежня 1992 года будаўнікі павінны здаць «пад ключ» 12 шматпавярховых жылых дамоў, дзіцячы сад з басейнам, паліклініку і гандлёва-бытавы сектар.**

**Наш карэспандэнт сустрэўся з начальнікам будаўніцтва Маці МЯКІНЕНАМ.**

— Пачатую зараз будоўлю сапраўды можна назваць інтэрнацыянальнай. Без нямецкіх сродкаў, фінскіх здольнасцей, а таксама дапамогі беларускіх будаўнікоў і нашых субпадрадчыкаў з пецярбургскай фірмы «Маналітбуд» такое будаўніцтва было б немагчымым, — растлумачыў Маці Мякінен. — Тым больш, што пералічанымі адрасамі абмяжоўвацца нельга: камплектуючыя і аддзелачныя матэрыялы мы будзем атрымліваць з многіх еўрапейскіх краін.

**— Вас самога не пужаюць такія ўмовы працы, калі толькі па колькасці кампаньёнаў трэба мець свой «адрасны стол»?**

— У цэлым — не. Таму што падобныя ўмовы працы як асабіста для мяне, так і для многіх маіх калег з Фінляндыі, ужо звыклыя. Гэта не першы наш аб'ект у Саюзе. Да гэтага нашы спецыялісты працавалі на будаўніцтве буйнога камбіната ў Кастамукшы, на ўзвядзенні гасцініцы «Пулкаўская» і буйнога чыгуначнага дэпо пад Пецярбургам... А вось у вашай рэспубліцы мы ўпершыню.

Праўда, фірма не накіроўвала ў Беларусь некалькі сот сваіх спецыялістаў, як на іншыя будоўлі. Зараз іх усяго 16 чалавек. У будучым будзе каля 50. Усіх астатніх неабходных для работы людзей мы павінны былі знайсці сярод мар'інагорцаў. А дакладней кажучы, яны самі нас адшукалі і прапаноўвалі свае паслугі. Мы, вядома, у большасці не адмаўлялі. Бо нам патрэбны людзі як для работы на самім аб'екце, так і на кухні, у сталоўцы, пральні. Да таго ж большасць жонак ваеннаслужачых, што пераехалі з Германіі на Пухавічыну, засталіся пакуль не толькі без кватэры, але і без работы.

**— Як жа супрацоўнікі фірмы вялі адбор патрэбных кадраў? Што ўлічвалася ў першую чаргу?**

— Перш за ўсё — гэта жаданне працаваць у фірме «Хака». Нейкай кваліфікацыйнай камісіі, якая б адзначала прафесійную прыгоднасць рабочага, не было. Таму што нельга ацаніць чалавека ў рабоце, якую ён ніколі не выконваў. Так-так, я не памыліўся. Быць добрым майстрам-будаўніком — гэтага для нас мала. Трэба ўмець будаваць не толькі з цэглы, але і дамы маналітныя. А гэтым пакуль у вашай краіне займаюцца нямногія.

У большасці выпадкаў працэдура прыёму на работу абмяжоўвалася звычайнай размовай. І калі чалавек згаджаўся на прапанаваныя намі ўмовы працы і велічыню грашовай узнагароды, мы без лішніх перашкод і дадатковых папер афармлялі з ім кантракт да канца будаўніцтва. І першыя дні работы паказваюць, што мы не памыліліся. Адміністрацыя ж будаўніцтва са свайго боку будзе прымаць усе неабходныя меры для таго, каб нашы беларускія калегі былі задаволены. І парушэнняў працоўнай дысцыпліны ў нас пакуль няма.

**— Напэўна, калі не лічыць нашых так званых «перакураў»?**

— Нам добра вядомы гэты тэрмін, паколькі мы ўжо, як я сказаў, працавалі ў Савецкім Саюзе. Але, як мы паспелі ўжо пераканацца, у большасці выпадкаў віны саміх рабочых у гэтым няма. Брыгады аб'яўлялі перакуры толькі з-за адсутнасці нейкіх матэрыялаў ці неабходнай для работы тэхнікі. Мы ж на гэта паскардзіцца не можам. Спецыяльна пад гэтае будаўніцтва былі распрацаваны камп'ютэрныя праграмы, пры дапамозе якіх нашы спецыялісты кантралююць як графік выканання работ, наяўнасць неабходных матэрыялаў, так і налічэнне і выплату заработнай платы.

Думаю, што беларусаў, перажыўшых чарнобыльскую навалу, як нікога іншага хвалююць экалагічныя пытанні. А тым больш, калі гэта мае непасрэднае дачыненне да ўласных кватэр. Таму, думаю, ужо сёння можна запэўніць нашых будучых навасельцаў: наш дом — гэта ваша крэпасць. У адпаведнасці з умовамі дагавору ўсе матэрыялы, выкарыстаныя на будаўніцтве, незалежна ад таго, адкуль яны прыбылі, абавязкова праходзяць радыелагічны кантроль. Тым больш, калі мы выкарыстоўваем мясцовую сыравіну.

**— Давялося пабываць мне і на самім аб'екце, які па маштабах работ не з маленькіх, але заўважыў я яшчэ адну розніцу. Людзей працуе не надта шмат...**

— Гультаёў у нас проста не трымаюць. Я ўпэўнены, што ў бліжэйшы час і ў вашай краіне колькасць будаўнікоў скароціцца, скажам, на чвэрць. А вось колькасць будоўляў і хуткасць выканання работ пры гэтым будуць расці. І нейкага сакрэту тут няма. Калі ў краіну расчынены вароты, нельга разам з новымі тэхналогіямі не пераняць і такую дробязь, як сродкі малой механізацыі працы. А яна сёння, трэба прызнаць, — не з лепшых. За кошт нескладаных навуковых распрацовак значна скароціцца колькасць саміх будаўнікоў. Вось гэта і будзе крокам у заўтра, які будаўнікі павінны зрабіць ужо зараз.

**С. ВОРСКІ.**

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб першачарговых мерах па забеспячэнню Рэспублікі Беларусь збожжам у 1992 годзе

У мэтах задавальнення патрэбнасці насельніцтва рэспублікі ў хлебапрадуктах, захавання пагалоўя жывёлы і птушкі, недапушчэння зніжэння вытворчасці мяса, малака, яек і выканання паставак жывёлагадоўчай прадукцыі ў адпаведнасці з заключанымі міжурадавымі пагадненнямі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прызнаць неабходным у якасці вымушанай меры прыцягнуць для закупкі збожжа за рубяжом валютныя сродкі прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі ў суме не менш як 50 працэнтаў ад іх наяўнасці на стану на 1 студзеня 1992 г. з наступным вяртаннем пазычаных сродкаў з рэспубліканскага валютнага фонду.

Кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый забяспечыць да 15 студзеня 1992 г. пералічэнне валютных сродкаў на валютны рахунак Міністэрства хлебапрадуктаў нумар 266070524/002 у Белзнешэканомбанку г. Мінска.

Белзнешэканомбанку, міністэрствам і ведамствам установіць строгі кантроль за выкананнем указанага даручэння і аб выніках да 25 студзеня 1992 г. далажыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Белзнешэканомбанку, Дзяржэканомплану, Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях, Міністэрству фінансаў распрацаваць парадак і механізм вяртання атрымліваемых ад прадпрыемстваў і арганізацый валютных сродкаў на закупку збожжа і давесці іх да зацікаўленых.

2. Дзяржэканомплану, Дзяржснабу, Дзяржаўнаму камітэту па забеспячэнню нафтапрадуктамі, іншым міністэрствам і ведамствам, аб'яднанням і прадпрыемствам прадугледзець для экспартных паставак матэрыяльна-тэхнічныя сродкі згодна з дадаткам і забяспечыць іх першачарговую рэалізацыю.

Валютную выручку ад продажу гэтых сродкаў у поўным аб'ёме пералічыць на рахунак Міністэрства хлебапрадуктаў для закупкі збожжа.

3. Дзяржэканомплану і Дзяржснабу ўнесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб выдзяленні аграпрамысловаму комплексу з Рэспубліканскага фонду стабілізацыі рынку матэрыяльна-тэхнічных сродкаў і тавараў народнага спажывання для правядзення на знешнім і ўнутраным рынках бартэрных здзелак па закупцы збожжа.

4. Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях, Дзяржснабу, іншым міністэрствам і ведамствам сумесна з Міністэрствам хлебапрадуктаў у аператыўным парадку заключыць кантракты з замежнымі фірмамі на закупку збожжа ў аб'ёме не менш як 2 млн. тон з пастаўкай яго ў рэспубліку ў І—ІІІ кварталах 1992 г.

Міністэрству хлебапрадуктаў узяць пад строгі кантроль ход заключэння і выканання кантрактаў, рэгулярна інфармаваць урад аб пастаўках збожжа ў рэспубліку.

5. Аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому забяспечыць у 1992 годзе закупку за межамі рэспублікі збожжа ў аб'ёмах не менш як 20 працэнтаў гадавой патрэбнасці ў ім абласцей і г. Мінска за кошт уласных матэрыяльна-тэхнічных і валютных сродкаў і сродкаў, атрыманых шляхам арганізацыі вытворчасці прадукцыі звыш дзяржаўнага заказу.

6. Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях, Міністэрству фінансаў, Міністэрству хлебапрадуктаў, Дзяржэканомплану, Белзнешэканомбанку ў месячны тэрмін унесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб прыцягненні замежных крэдытаў для закупкі збожжа.

7. Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях, Міністэрству гандлю, Дзяржснабу пры выдачы прадпрыемствам і арганізацыям, незалежна ад форм уласнасці, ліцэнзій і дазволаў на правядзенне бартэрных здзелак прадугледжваць, як правіла, закупку імі збожжа ў размеры не менш як 25 працэнтаў ад сумы, на якую заключаны здзелкі па пастаўцы сустрэчных тавараў.

8. Прасіць Беларускую навукова-прамысловую асацыяцыю, Саюз арандатараў і прадпрымальнікаў, іншыя камерцыйныя структуры вызначыць сваю долю ўдзелу ў вырашэнні жыццёва важнай праблемы забеспячэння рэспублікі збожжам і іншымі відамі прадуктаў харчавання, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе наяўныя рэсурсы.

9. Забараніць у 1992 годзе вываз з рэспублікі збожжа ў іншыя рэгіёны і за рубеж.

Міністэрству ўнутраных спраў, Дзяржаўнаму мытнаму камітэту ўзмацніць кантроль за ўстаноўленым парадкам вывазу (адпраўкі) сельскагаспадарчай прадукцыі, у тым ліку збожжа, за межы рэспублікі і прымяняць да парушальнікаў меры ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

10. Міністэрствам і ведамствам, прадпрыемствам і арганізацыям забяспечыць прыярытэт паставак прадукцыі ў абмен на збожжа, а ўпраўленню Беларускай чыгункі, Міністэрству транспарту, Дзяржаўнаму мытнаму камітэту — своечасовае выдзяленне транспартных сродкаў і афармленне праваавых і таможных дакументаў па экспартных і імпартных пастаўках адпаведна матэрыяльных рэсурсаў і збожжа.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. КАЎКО.**

10 студзеня 1992 г. г. Мінск.

ЗОРКІ БЕЛАЕ РУСІ

# Якуб Наркевіч-Ёдка

## Сцежкамі беларускага навукоўца-першапраходца, імя і справы якога незаслужана забытыя



**У ПАЧАТКУ 90-х ГАДОЎ мінулага стагоддзя ў замежных і рускіх газетах з'явіліся артыкулы, якія вельмі зацікавілі аматараў фатаграфіі. Паведамлялася, што нехта Наркевіч-Ёдка вынайшаў «спосаб фатаграфавання з дапамогай электрычнасці» і што ён выстаўляў у Ніцы фотаздымкі «...электрычных іскраў і хвалепадобных ваганняў у розныя моманты выяўлення іх у прыродзе і чалавечым арганізме». Італьянскія вучоныя, якія прысутнічалі пры дэманстрацыі вынаходства, пісалі ў прывітальным адрасе: «Мы... знайшлі важнасць вучонага погляду, гэтыя вопыты не толькі нас здзівілі і прывялі ў захапленне, але і даказалі нам вялікую будучнасць у выкарыстанні электрычнасці і электраграфіі». Навукоўцы Венскага, Парыжскага, Пецярбургскага і іншых універсітэтаў прадказвалі важнасць гэтых даследаванняў для медыцыны і фізіялогіі. Электрычныя здымкі Наркевіча-Ёдкі «...з'яўляюцца ў адносінах да таемнасцей электрычнасці тым жа, што і мікраскоп у свеце дзівос прыроды», — адзначалася ў адным з заключэнняў.**

Пошукі ў гэтым накірунку выявілі некалькі публікацый, з якіх вынікала, што вучоны жыў і працаваў на Беларусі, на Міншчыне. Дакладней — на Уздзеншчыне, там, дзе тры рачулкі—Нёманец, Лоша і Вуса даюць пачатак нашаму сівому, адвечнаму і легендарнаму Нёману. Тут прасторныя заліўныя лугі, лясы перамяжоўваюцца палямі. Месца маёнтка вучонага — малавядомы цяпер Наднёман. У ім стаяў сядзібны дом — «панскія пакоі» — мудрагелістых гатычных контураў, гаспадарчыя пабудовы, экзатычны парк...

Хто ж ён такі, Якуб-Сармат-Жыгімонт Атонаў Наркевіч-Ёдка, гаспадар Наднёмана? Яго асоба не ўкладвалася ў рамкі звычайных уяўленняў. Вырваўшыся за межы тагачаснага Паўночна-Заходняга краю, ён заваяваў прыхільнасць навуковай думкі Расіі і Заходняй Еўропы і з гонарам увайшоў у высокі храм навукі.

Асноўная яго падрыхтоўка, як і большасці прыродазнаўцаў таго часу, была ўрачэбнай. Доктарам ён быў някепскім: меў нават свой санаторый. Кажуць, вучоны вылечваў нават безнадзейна хворых.

Пэўныя звесткі аб навуковай дзейнасці вучонага ўтрымліваюцца ў яго дакладах на пасяджэннях Пецярбургскага сходу сельскіх гаспадароў у 1892 і 1893 гадах. Яны былі выдадзены асобнымі выпускамі і даносяць да нас факты і асаблівасці метаду яго навуковай работы. Пазней было выяўлена і біяграфічнае выданне «Жыццё і дзейнасць Якуба Наркевіча-Ёдкі» (Парыж, 1896 год).

Асноўная навуковая дзейнасць Наркевіча-Ёдкі праходзіла непасрэдна ў яго маёнтку. Тут Якуб Атонавіч узвёў пабудовы для доследаў, а на 27-метровай вежы ля будынка (якая пакуль што захоўваецца) абсталяваў «атмасферычную» станцыю, аснашчаную першакласнымі прыборамі. Вежа мела таксама... паветраны арган — своеасаблівую эолаву арфу.

Атрыманыя пазней даныя пацвердзілі, што ў Наднёмане ў маёнтку вучонага дзейнічалі метэаралагічная станцыя, электраграфічная, хімічная, электрабіялагічная і нават астранамічная лабараторыі. Вось менавіта ў іх і праходзіла дзіўнае, амаль пустэльніцкае жыццё даследчыка.

Кола праблем, якія цікавілі вучонага, было шырокім, але, бадай што, найбольшага поспеху ён дасягнуў у даследаванні ўплыву электрычнасці, у тым ліку і атмасфернай, на жывыя арганізмы і расліны. Навуковая кампетэнцыя вучонага ў гэтай галіне не мела роўных. З 90-х гадоў мінулага стагоддзя яго нязменна называюць электролагам, электратэрапеўтам, «электрычным чалавекам». Мала хто згаджаўся ўдзельнічаць у яго эксперыментах — у большасці яны праводзіліся ўначы, у цемры, пад трэск і сполахі электрычных разрадаў.

Цікавыя навуковыя падыходы Я. Наркевіча-Ёдкі. Ён зыходзіў з таго, што электрычнасць як аб'ектыўная рэальнасць з'яўляецца неад'емнай часткай навакольнага матэрыяльнага сусвету, і натуральна, не можа не аказваць самага непасрэднага і ўсебаковага ўздзеяння на жывую прыроду. Токі ў чалавечым арганізме цесна звязаны са станам атмасфернай электрычнасці і сонечнай актыўнасці. Чалавечы арганізм, выпрацоўваючы электрычнасць у мышачных тканках, уяўляе сабой своеасаблівую электрычную батарэю, якая бесперапынна абменьваецца зарадамі з навакольнай прасторай. «...Здабытыя мной вынікі даюць мне магчымасць меркаваць аб вялікай ступені ўплыву наогул штучных токаў і атмасфернай электрычнасці на паталагічны стан арганізма... Поспех лячэння залежыць... ад адпаведнага стану і напружання атмасфернай электрычнасці».

Адкрыццё ў 1891 годзе электраграфіі, інакш — «фатаграфавання без аб'ектыва», было, бадай, галоўным навуковым дасягненнем вучонага. Электраграфія заснавана на здольнасці электрычнага току пры праходжанні праз слой фотаэмульсіі пакідаць свой «след». Пасля традыцыйнага праяўлення атрымліваецца амаль дактыласкапічны адбітак электраграфуемага аб'екта ў выглядзе «кароны», «аўры». Я. Наркевіч-Ёдка атрымаў каля 1,5 тыс. адбіткаў «расцякання» току з розных прадметаў жывой і нежывой прыроды. Сярод іх, у прыватнасці, вядомую электраграфію рукі выдатнага французскага астранома К. Фламарыёна.

Арыгіналы электраграфій не захаваліся, хоць яны пры жыцці вучонага перадаваліся шэрагу ўстаноў. Некалькі някепскіх рэпрадукцый было змешчана ў свой час у кнігах В. В. Бітнера, М. Е. Пагарэльскага ды ў часопісах «Кгај», «Нива», якімі мы сёння і карыстаемся.

Узнікае пытанне: а ці не была электраграфія ўсяго толькі ўдалай забавай, кур'ёзам вучонага? Ні ў якім разе! Вось радкі з рэпартажу з V фатаграфічнай выстаўкі ў Пецярбурзе, які быў апублікаваны ў № 5 часопіса «Фотограф-любитель» за 1898 год: «...У канцы аддзела змешчаны малавядомы, але вельмі цікавы экспанат п. Наркевіча-Ёдкі, які ўяўляе здымкі розных разрадаў электрычнасці, адбітых на фатаграфічных пласцінках. Тут заўважаецца ўплыў на разрад пылу, паветра і стану самога прадмета: так, напрыклад, ліст, які засох, і ліст жывы даюць розныя адбіткі на пласцінцы, рукі здаровага чалавека і рукі паралізаванага суб'екта выдаюць на пласцінцы зусім розныя адлюстраванні. Наогул, гэты экспанат з'яўляецца новым і выключна цікавым у фатаграфіі, бо кладзе, магчыма, пачатак масе новых даследаванняў і гіпотэз...»

Сапраўды, праводзячы шматлікія эксперыменты, Якуб Атонавіч заўважыў розніцу ў электраграфічным адлюстраванні аднолькавых участкаў цела хворых і здаровых, стомленых і ўзбуджаных, спячых і бадзёрых людзей. І гэта дало падставу вынаходцу прымяніць электраграфію для дыягностыкі захворванняў. Больш таго, вучоны прадказаў магчымасць выкарыстання метаду для вызначэння псіхалагічнай сумяшчальнасці людзей.

У друку з'явіліся меркаванні аб выключных магчымасцях электраграфіі (такую назву спосабу фатаграфавання даў сам вынаходнік) у медыцыне, работы Наркевіча-Ёдкі параўноўваліся з адкрыццём Рэнтгена. Тым не менш было дзіўна, што звесткі аб самім вынаходніку, аб яго работах не ўвайшлі ні ў энцыклапедыі, ні ў даведнікі таго часу. Не з'явіліся яны і ў адпаведных выданнях наступных гадоў.

Электраграфію Я. Наркевіча-Ёдкі напаткаў нядобры лёс.

...Да 150-годдзя з дня вынаходства фатаграфіі аўтарам была падрыхтавана для выстаўкі ў Мінску невялікая падборка электраграфій Я. Наркевіча-Ёдкі. Некалькі вядомых фотамайстроў у адзін голас усклікнулі: «Пры чым жа тут Наркевіч-Ёдка, гэта ж вядомыя ўсяму свету здымкі Кірліянаў!»

Так, сапраўды, пад электраграфіяй сёння разумеюць часцей за ўсё т. зв. «кірліянаўскія» фатаграфіі. Муж і жонка С. і В. Кірліяны з Краснадара паўтарылі ў канцы 40-х гадоў электраграфічныя доследы Я. Наркевіча-Ёдкі з выкарыстаннем новых, больш дасканалых крыніц току і фотаматэрыялаў. З гэтага часу электраграфія паўстае ў нас і за мяжой як «эфект Кірліянаў».

Не так даўно давялося слухаць замежнае радыё. Ішоў рэпартаж з электраграфічнага салона нейкага Поля Мітчэла ў Лондане. Ён зрабіў адбітак «аўры» завітаўшай да яго радыёкарэспандэнткі, апрацаваў яго на камп'ютэры і па ім даволі дакладна вызначыў «букет» яе захворванняў, даў рэкамендацыі па лячэнню. І зноў жа было прыгадана, што ў аснове электраграфіі ляжыць «эфект Кірліянаў».

Чаму ж так адбываецца? Можна сцвярджаць, што ў першую чаргу таму, што электраграфія, як вельмі перспектыўны метад дыягностыкі захворванняў, на радзіме яе адкрыцця за прайшоўшае стагоддзе не атрымала якога-кольвек развіцця. Тут мы не прасунуліся наперад. А патрэба ў гэтым ёсць, хаця б дзеля таго, каб далучыць навуковасць і аб'ектыўнасць да тых сфер псіхатэрапеўтычнага лячэбнага ўмяшання, якія сёння захоплены шматлікімі малаадукаванымі экстрасенсамі.

За мяжой жа гэтай з'яве надаецца больш увагі. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што т. зв. «дэтэктары хлусні» і некаторыя метады крыміналістыкі заснаваны на прынцыпе ёдкаўскай электраграфіі. Сапраўды, яшчэ даследчык даказаў, што ў выніку змены фізічных і эмацыянальных нагрузак у электрычным разрадным прамежку паміж электродам і скурай чалавека адпаведна зменьваецца састаў і вільготнасць паветра, праз гэтыя паказчыкі можа быць вызначаны і псіхічны стан пацыента.

Ці ж не крыўдна ў такім разе тое, што ў нас невядома імя чалавека, адкрыццё якога выкарыстоўваецца не толькі ў медыцыне і крыміналістыцы, але і ў геалогіі, псіхалогіі, хіміі, біялогіі і касманаўтыцы? Наш грамадскі абавязак — аднавіць прыярытэт вучонага-земляка ў вынаходстве электраграфіі.

Але набярэмся смеласці і мысленна спусцімся ў лёхавую частку наднёманскага сядзібнага дома, у электраграфічную лабараторыю вучонага. У гэтым экскурсе ў мінулае нам дапаможа аўтар выдадзенай у 1907 годзе ў Пецярбургу кнігі «В область таинственного» В. Бітнер: «Самыя, аднак, эфектныя вопыты, якія праводзяцца па метаду Наркевіча-Ёдкі, гэта тыя, што робяцца ў цёмным пакоі. Вы трымаеце ў руцэ электрод... эксперыментатар падносіць да вашага цела маленькую лямпачку са знятымі вушкамі. І, да немалога вашага здзіўлення, яна пачынае свяціцца тым ярчэй, чым меншая адлегласць аддзяляе яе ад вас. Але незалежна ад гэтага святло лямпачкі бывае розным, і тым мацнейшым, чым болей жыццёвай энергіі знаходзіцца ў частках арганізма: пры паднясенні лямпачкі да органаў анемічных, паралізаваных, паражоных хваробамі, якія аслабляюць іх жыццядзейнасць, святло, па думцы Наркевіча-Ёдкі, вельмі прыкметна аслабляецца, і наадварот, узмацняецца ля зусім здаровых органаў. Той жа дослед можна прарабіць, калі замяніць лямпачку гейслеравай трубкай, тады з'ява будзе яшчэ прыгажэйшай і больш эфектнай».

Па інфармацыі з друку, не так даўно кіеўскім вучоным як быццам удалося атрымаць свячэнне, інакш «аўру», усяго чалавека, вакол якой столькі стагоддзяў ходзіць шмат неверагодных домыслаў. Але вядома, што і Наркевіч-Ёдка дасягаў таго ж яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. Ёсць сведчанні, што такім спосабам ён выяўляў на целе чалавека акупунктурныя кропкі.

Развіваючы даследаванні, Я. Наркевіч-Ёдка адкрыў «новы метад выкарыстання электрычных токаў і электрычнага масажу ў электратэрапіі для лячэння нервовахворых». Метад правяраўся ў Рымскім інстытуце фізіятэрапіі пад назвай «сістэмы Ёдкі», а пазней увайшоў у практыку ў Наднёмане ў агульнадаступным санаторыі вучонага. Гістарычны факт: у гэтым санаторыі ў канцы мінулага стагоддзя падмацоўваў сваё здароўе тады яшчэ навучэнец Слуцкай гімназіі, а потым пісьменнік, паэт і дзяржаўны дзеяч Язэп Дыла.

Комплекс лячэбных працэдур уключаў у сябе, акрамя светла-, паветра-, вода- і кумысалячэння, гімнастыкі, мясцовых мінеральных водаў яшчэ і электрамасаж уздзеяннем індукцыйнымі токамі на пэўныя нервовыя вузлы. Выказванне Якуба Атонавіча «магніт таксама можа быць тэрапеўтам» — яшчэ адзін бок яго выключнай урачэбнай кампетэнцыі. З дапамогай гэтага комплексу ў санаторыі вылечваліся паралічы і «застарэлыя рэўматызмы», а стан нервовых і сухотных хворых, якія сюды імкнуліся як з усіх куткоў Расіі, так і з-за мяжы, значна паляпшаўся.

У 1900 годзе на міжнародным кангрэсе ў Парыжы Я. Наркевічу-Ёдку за гэтыя навуковыя дасягненні надаецца званне прафесара «электраграфіі і магнетызму».

У нумары 4 «Метеорологического вестника» за 1891 год Я. Наркевіч-Ёдка паведамляў аб прыёме 28 чэрвеня 1890 года на ўсталяванай па яго сістэме ў Наднёмане «атмасферычнай станцыі» з дапамогай тэлефонаў моцных сігналаў, якія прадказвалі навальніцу на адлегласці да 100 км. Па меры набліжэння навальнічных хмар «...у тэлефонах усё болей і болей выразна адчуваўся шум і характарыстычны трэск». Газета «Минский листок» паведамляла ў сакавіку 1892 года, што ўтрымальнік інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу (вучоны быў яго супрацоўнікам) прынц А. Альдэнбургскі з вялікай цікавасцю азнаёміўся з «вопытамі перадачы гукавых ваганняў у ізаляваных тэлефонах». А ў чэрвені 1892 года яна апавясціла чытачоў, што ў Празе вучоны паставіў доследы «ў галіне перадачы гукавых і светлавых з'яў на адлегласць пры ўдзеле чалавечага арганізма». Факт доследу засведчылі афіцыяльным пратаколам з падрабязным апісаннем зробленага вучоным адкрыцця.

Што гэта былі за доследы і як яны праводзіліся, тлумачыць нам той жа В. Бітнер: «...Другі, яшчэ больш цікавы дослед так званага тэлефанавання без дапамогі правадоў заключаецца ў наступным. Аператар бярэ ў адну руку электрод, у другую — тэлефонную трубку, якая ні з чым не злучана, і прыкладвае яе да свайго ці, яшчэ лепей, да вашага вуха. Як і належала меркаваць, вы, канешне, нічога не пачуеце. Дастаткова аднак каму-небудзь з прысутных датыкнуцца пальцам да аднаго з борнаў (кантактаў. — **У. К.**) тэлефоннай трубкі, як вы адразу ж адрозніце ўсе адценні вібрацыі малаточка індукцыйнага прыбора, усе працэсы, якія будуць праведзены ў сувязі паміж апаратарам і бабінай (шпуляй Румкарфа.—**У. К.**), ці апошнім і ізаляваным металічным шпянём, які замацаваны на вежы».

На карысць аўтара адкрыцця спосабу «бяздротавай сувязі» сведчыць і пратакол пасяджэння французскага фізічнага таварыства ў Парыжы, якое адбылося ў снежні 1896 года. У ім гаворыцца, што Лоджу «...належыць першая ідэя тэлеграфіі без правадоў, калі не пажадаем дайсці да Наркевіча-Ёдкі.., які двума-трыма гадамі раней выканаў у Вене вельмі цікавыя перадачы са шпуляй Румкарфа, злучанай з зямлёй, антэнай і прыёмнікам, што быў створаны з антэны і тэлефона, таксама заземленага (праўда, можа быць, без яснага ўяўлення аб ролі электрамагнітных хваляў у гэтых доследах)».



Сядзіба Я. Наркевіча-Ёдкі (літаграфія 1882 г.)

Што гэта? Першыя спробы радыёперадач? Пакуль што будзем асцярожнымі: навуковай экспертызы, на жаль, гэтыя вопыты не прайшлі. Але калі «бяздротавыя» перадачы вяліся толькі па прынцыпу электрастатычнага навядзення, то і тады вучоны павінен стаць нашым нацыянальным гонарам.

Ці ўзяць яшчэ прыклад: зараз прыкладаюцца намаганні па вырашэнню харчовай праблемы, але нешта не чутна пра выкарыстанне электрычнасці для павышэння ўрадлівасці глебы. А чаму? Эфектыўнасць яе прымянення была даказана яшчэ ў мінулым стагоддзі. Гэта менавіта і ёсць той самы інтэнсіўны шлях развіцця сельскай гаспадаркі. Пара прыпыніць бяздумнае агаленне нашай зямлі праз расшырэнне ўсё новых і новых плошчаў, не надта турбуючыся аб павышэнні іх урадлівасці. І да доследу Я. Наркевіча-Ёдкі, які ўвёў электракультывацыю на плошчах болей за 200 гектараў і атрымліваў добрыя вынікі, час вярнуцца зноў.

Чым жа яшчэ цікавіўся Якуб Атонавіч? У 1886 годзе ён стварае ў Наднёмане сельскагаспадарчую метэаралагічную станцыю першага разраду, адну з самых буйных у заходняй частцы Расіі, якая ўвайшла ў сетку станцый Галоўнай фізічнай абсерваторыі. Ён прапанаваў спосаб вымярэння хуткасці руху воблакаў, распрацаваў лізіметр — прыбор для вымярэння вільготнасці глебы. За заслугі ў галіне метэаралогіі Рускае геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла яго срэбным медалём, а ў 1900 годзе ён па прапанове прэзідэнта Акадэміі навук быў узнагароджаны ордэнам св. Ганны другой ступені.

Кажуць, каб пазнаць чалавека, дастаткова ўявіць узровень яго акружэння. У афіцыйных справаздачах інстытуту эксперыментальнай медыцыны Я. Наркевіч-Ёдка пісаў: «Працы мае, даклады правяраліся ў Расіі прафесарамі Красоўскім, Брадоўскім, Ягоравым, Мендзялеевым, Боргманам, Петрушэўскім, Саветавым, Дакучаевым, Ваейкавым, Бараноўскім і многімі іншымі». Далей ім прыводзяцца дзесяткі імён вучоных з Аўстрыі, Італіі, Германіі, Францыі, Іспаніі, якія ўшанавалі яго прывітальнымі адрасамі і сваімі творамі. Я. Наркевіч-Ёдка меў ступень доктара Венскага медыцынскага таварыства, абіраўся членам фізіка-матэматычнага таварыства Галілея ў Фларэнцыі. Вучоны меў званне ганаровага члена Французскага электратэрапеўтычнага таварыства пры Парыжскай акадэміі навук, быў членам-карэспандэнтам Медыцынскага і Астранамічнага таварыства Францыі і французскага магнетычнага інстытута, членам-супрацоўнікам шэрагу расійскіх навуковых устаноў і таварыстваў.

Пералічанага вышэй, бадай, было б дастаткова, каб аднесці Я. Наркевіча-Ёдку да плеяды самых відных вучоных мінулага. Але гэтага не адбылося. Чаму? Магчыма, таму, што сваімі даследаваннямі ён апярэдзіў час і гэтым выклікаў неразуменне і нават недавер з боку сваіх сучаснікаў. Мае рацыю меркаванне, што Якуб Атонавіч «нарадзіўся занадта рана». Для гэтага ёсць свая падстава: яго электрычныя вынаходствы ў той час не даказваліся тэарэтычна. Нагадаем, што электрон быў адкрыты толькі ў канцы яго жыцця, а навуковае тлумачэнне яму было дадзена ўжо пасля смерці вучонага. Акрамя гэтага, некаторыя яго «дзівосы» знешне напаміналі распаўсюджаны тады спірытызм і гэтым толькі павялічвалі скепсіс пэўнай часткі натуралістаў.

У жыцці Я. Наркевіча-Ёдкі многа агульнага з лёсам Франца Месмера, трагічнасць асобы якога была ў тым, што апошні — энтузіяст ведаў і ўрач, гуманіст, прыхільнік навукі і мысліцель — разам са створаным ім вучэннем з'явіўся перад светам увасабленнем памылак. У гэтым сэнсе і Якуб Атонавіч Наркевіч-Ёдка выступае ў пэўнай ступені асобай трагічнай.

Я. Наркевіч-Ёдка, як выдатны энцыклапедыст, не змог перайсці грань нашага стагоддзя. Ён у сваіх пошуках застаўся ў баку ад галоўнага напрамку навукі канца XIX стагоддзя — спецыялізацыі, нават у нечым вярнуўся на навуковыя пазіцыі XVIII стагоддзя, калі было прынята даследаваць натуру, пранікаць думкай у сутнасць прыроды, у свет, для натуралістаў заўсёды жывы, невычарпальна складаны. Такія вучоныя ўздымаліся ў сваіх пошуках да спасціжэння агульначалавечых праблем, праяўлялі свой талент на вялікіх абагульненнях, на філасофскіх вызначэннях, востра адчувалі нязведанасць творчага працэсу. Завяршаў гэту вялікую кагорту У. Вярнадскі.

Як вучоны-адзіночка, вучоны-універсал Якуб Атонавіч быў таксама ў некаторым родзе «апошнім з магікан». Аднак гэтым універсалізмам у некаторай ступені можна тлумачыць дасягненне вучоным у адносна кароткі срок — чвэрць стагоддзя —выдатных поспехаў. Тым не менш дзякуючы свайму прадбачанню вучоны здолеў разгледзець контуры будучай навукі XX стагоддзя. Многае са створанага ім прызначалася для нас. Светапогляд, духоўнае і разумовае жыццё Я. Наркевіча-Ёдкі прасціраюцца да нашых дзён і ідуць у будучыню. Зусім верагодна, што некаторыя з эксперыментальных кірункаў, толькі накіданых у свой час неардынарным вучоным, пры ўважлівым аналізе змогуць паслужыць асновай для болей дэталёвых даследаванняў. Такое ў гісторыі ўжо здаралася...

Дзейнасць Я. Наркевіча-Ёдкі можа быць спасцігнута і ацэнена толькі такімі ж нераўнадушнымі, апантанымі людзьмі. Асабістыя перажыванні не аддзяляліся вучоным ад навуковай творчасці. У яго жыцці мастацтва і навука былі непадзельныя, адно другому спадарожнічала і садзейнічала.

Я. Наркевіч-Ёдка цікавіўся і таемным. Але вядома і другое. Ён сам дэталёва пераправяраў вынікі «прац» містыкаў. Калі яны не пацвярджаліся, то адхіляў іх рашуча і назаўсёды. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ён сёння не ў пашане ў неамістычных апалагетаў. Я маю на ўвазе тое спірытычна-тэасофскае нашэсце, лавіну спекуляцыйных домыслаў, якія суправаджалі вучонага пры жыцці. І цяпер, праз сто гадоў яго імя выкарыстоўваецца для сцвярджэння наяўнасці ўсё той жа «біялагічнай энергіі».

...Давялося неяк глядзець праграму Цэнтральнага тэлебачання. Жвавы, трохі артыстычны чалавек завяршаў размову аб выяўленні ім факта медытацыі (кантакту) паміж нашым, грэшным, і тым, замагільным, светам. Маўляў, хутка выйдзе яго кніга, дзе ўсё гэта добра аргументуецца. І паказаў фотаздымак з кнігі, з дапамогай якога ім быццам бы і даказвалася медытацыйная сувязь. І канешне, гэта фатаграфія была адной з электраграфій Я. Наркевіча-Ёдкі. Вынаходнік, ды і іншыя вучоныя таго часу, не даравалі б яму такой вольнасці. А сённяшнія маўчаць.

Можна зусім адназначна сцвярджаць, што Я. Наркевіч-Ёдка з'явіўся першаадкрывальнікам новых навуковых кірункаў, якія знаходзяцца на стыку розных навук. І сёння менавіта тут самыя плённыя месцы для даследчыка. Магчыма, ён дасягнуў і нечага большага. Таму варта было б нарэшце заняцца вывучэннем не толькі айчынных, але і зусім некранутых замежных архіваў. Сувязі вучонага з Заходняй Еўропай цяпер трэба разглядаць не інакш, як гістарычныя сувязі беларускай і заходнееўрапейскай навук.

Эрнст Рэзерфорд неяк сказаў: «Пры сваім узнікненні навуковая ісціна праходзіць тры стадыі разумення. Спачатку кажуць, што гэта абсурд, потым — у гэтым нешта ёсць. Нарэшце — гэта даўно вядома». Прыкладна па такой схеме развіваецца ўсведамленне навуковых прац Я. Наркевіча-Ёдкі. Можна сказаць, што па разуменню спадчыны вучонага мы дзесьці пераходзім на другую стадыю.



Электраграфія рукі чалавека, зробленая Я. Наркевічам-Ёдкам.

Няўдзячны лёс выдатнага беларускага вучонага, урача і вынаходніка Я. Наркевіча-Ёдкі патрабуе дадатковага спагадлівага асэнсавання.

Вельмі вядомы пры жыцці, ушанаваны шматлікімі тытуламі і ўзнагародамі, прадстаўлены ў дзесятках і сотнях артыкулаў у навуковых выданнях і перыядычным друку, вучоны быў пасля смерці адразу ж забыты. Трагедыя асобы пры жыцці прадоўжылася трагедыяй і пасля смерці. Болей таго, яна прадаўжаецца, як ні сорамна, і ў наш адукаваны, дэмакратычны час. Магіла Якуба Атонавіча ў пачатку 30-х гадоў была разрабавана ў Наднёмане, а яго косці раскіданы па наднёманскай зямліцы. А зусім нядаўна сучасныя вандалы пасцягвалі з фамільных могілак апошнія помнікі. Яго сядзібны дом—выдатнае архітэктурнае збудаванне — адлюстраваны на адной з гравюр Напалеона Орды, быў без асаблівых падстаў знішчаны ў час апошняй вайны. Лёс праз людзей як бы намагаўся сцерці з гісторыі сляды існавання і дзейнасці вучонага.

Простыя ж людзі, землякі памятаюць вучонага і цікавяцца яго ідэямі. Навуковае і культурнае асяроддзе, па сутнасці, яго замоўчвае. Хоць постаць вучонага мае несумненна і значнае культурнае прадаўжэнне. Якуб Атонавіч быў ярка выражаным гуманістам, музыкантам, кампазітарам, асветнікам, археолагам, этнографам, прапагандыстам санітарыі і гігіены, барацьбітом з цемрашальствам, забабонамі, містыкай і да т. п.

Непавага пэўных колаў інтэлігенцыі да ўкладу вучонага можа тлумачыцца і так: фігура вучонага — чалавека памяркоўнага, па-традыцыяналісцку мудрага — кепска дастасоўваецца да палітычных перацягванняў, а яго ярка выражаная матэрыялістычная пазіцыя — да містычнага ачмурэння.

Хацеў бы выказаць думку: такая няўвага да нашага славутага вучонага ёсць не што іншае, як прадаўжэнне мінулага пыхлівага фанабэрства «абраных» у адносінах да падзвіжніцкага служэння ідэі, справе. Цяпер, здаецца, гісторыя прадаўжаецца. Уяўляецца цікавай думка аднаго з мясцовых жыхароў-уздзенцаў, які на запытанне аб прычынах абыякавых адносін да дзейнасці вучонага, адказаў так: «Ёдка быў чалавек разумны і здольны. А каму, калі падабаліся такія людзі? Так было раней, так яно застаецца і цяпер!»

Але гэта выказванне не бясспрэчнае. Беларускія маладыя мастакі добра адчуваюць творчы свет Якуба Атонавіча. Каб пераканацца ў гэтым, наведайце залу фізіка-матэматычных навук Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук РБ. Там знаходзіцца вялікае мастацкае палатно Эдуарда Рымаровіча «Якуб Наркевіч-Ёдка», дзе ён прадстаўлены ў час навуковага даклада. У Наднёмане яго уважліва слухаюць прафесары А. Ваейкаў і А. Саветаў. Цудоўнае палатно Рамана Заслонава на тэму наднёманскіх руін — вечны дакор за наша бяспамяцтва...

Што ж добрага мы маглі б зрабіць цяпер, чым адкупіцца перад гісторыяй за такі астракізм?

Прыйшоў час узнавіць сядзібны комплекс «Наднёман», выдатнае архітэктурнае збудаванне XVI ст., у мінулым цэнтр айчыннай навуковай думкі. Скажам, зрабіць тут дом творчасці для таленавітых дзяцей, ці пансіянат творчага адпачынку. І, канешне, стварыць у ім музей выдатнага беларускага вучонага Я. А. Наркевіча-Ёдкі і вялікай беларускай ракі Нёман. Трэба пачаць шукаць сляды вялікай асабістай бібліятэкі вучонага. Усё гэта, як і абсталяванне яго лабараторый, было перададзена ў свой час ва ўрачэбныя і навучальныя ўстановы горада Мінска. Усё, як і электраграфіі, знікла бясследна.

Імя Я. Наркевіча-Ёдкі заслугоўвае, каб быць занесеным на дошку славутых людзей, якія скончылі былую Мінскую гімназію. Някепска было б замацаваць яго прозвішча ў назве адной з культурных устаноў і вуліц пасялення Міншчыны. Імя выверана часам і не падуладна яму.

Калі новае «адкрыццё» вучонага адбудзецца занадта позна, мы ўсе ад гэтага многа страцім. І зноў спраўдзіцца наш адвечны падыход, пра які гаварылася на прыкладзе нашага вучонага яшчэ пры яго жыцці: «Мы... не ўмеем цаніць сваіх выдатных людзей, у прыватнасці тых, хто працуе на ніве навукі. Мы тады ставімся з увагай да сваіх славутасцей, калі яны папярэдне прагрымяць славай на Захадзе...» Сёння, здаецца і гэтай умовы ўжо недастаткова.

**У амерыканцаў ёсць звычай — адзначаць сваіх выдатных людзей не па датах і месцах нараджэння ці смерці, а па месцах і гадах, дзе і калі чалавек рабіў кар'еру. Калі і нам прытрымлівацца гэтага правіла, то на мінулы год прыпадала якраз стагоддзе з часу важнейшых адкрыццяў нашага суайчынніка і земляка Якуба Наркевіча-Ёдкі: спосаба электраграфіі і дастасавання яе да мэт дыягностыкі, а таксама першых спроб бяздротавых перадач. І ўсё гэта рабілася ў 1891 годзе тут, у нас на Міншчыне, ля вытокаў бацькі-Нёмана.**

**Але вы дарэмна шукалі ў планах Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Таварыства «Веды» ці якіх іншых устаноў рэспублікі мерапрыемствы з гэтай нагоды.**

**Сапраўды, няма пакуль прарока ў сваёй Айчыне...**

**Уладзімір КІСЯЛЁЎ,**
**кандыдат эканамічных навук, правадзейны член Геаграфічнага таварыства Рэспублікі Беларусь.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 14 студзеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Кугітанг». Кінанарыс.
**9.00.** Геаграфія Беларусі. 9 клас.
**9.30.** «Баграціён». Маст. фільм. 1-я серыя.
**11.10.** «Ад і да». Тэлетаргі.
**11.25.** П. І. Чайкоўскі. «Шчаўкунчык». Спектакль Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**16.30.** Беларуская літаратура. 9 клас.
**17.00.** Фальклорнае дзіцячае свята ў Заводскім раёне г. Мінска. Дабрачынная акцыя.
**17.40.** «На парог мой села казка», «Калі вельмі захацець». Мультфільмы.
**18.00.** «Гімназісты». Дак. фільм.
**18.50.** Гомельскі прамбудбанк прапануе...
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны.
**19.35.** Наш каментарый. «Жыццё без грошай».
**19.40.** «У стылі джаз-рэтра». Фільм-канцэрт.
**20.05.** Хакей. «Дынама» (Мінск) — СКА (Санкт-Пецярбург).
**20.45.** Калыханка.
**21.05.** «Жывапісу майстар па сваёй галіне». Дак. фільм.
**21.20.** Тэлебіржа.
**21.35.** НІКа.
**21.50.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — Эканамічная хваля.

**Першая праграма**

**6.00.** Раніца.
**8.35.** Мультфільмы.
**9.20.** «Цыркачаня». Дак. фільм.
**9.40.** Маст. фільм «Іржа». 1-я серыя.
**11.10.** Футбольны агляд.
**11.40.** Выступленне ансамбля «Арлоўскі сувенір».
**12.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**12.20.** Рытмічная гімнастыка.
**12.50.** «Донкіхоты з Ляляціна». Дак. фільм.
**13.20.** Канцэрт папулярнай класічнай музыкі.
**14.15.** Біржавыя навіны.
**14.30.** «Вам гэта трэба?»
**14.45.** Гандлёвы рад.
**15.00.** Навіны.
**15.20.** Урокі Вольгі Івановай.
**15.40.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 1-я серыя.
**16.45.** «Тэрыторыя». Аб цюменскім рэгіёне.
**17.05.** Дзіцячы музычны клуб.
**17.45.** Разам з чэмпіёнамі.
**18.00.** Навіны.
**18.20.** Палітычнае расследаванне.
**18.50.** «Справа».
**19.15.** Маст. фільм «Іржа». 1-я серыя.
**20.45.** Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Навіны.
**21.35.** Кінасерпанцін.
**22.50.** «З Лондана з любоўю, ці Непадарожныя нататкі». Перадача 1-я.
**23.25.** «Дзевятка».
**24.00.** Навіны.
**0.20.** Аўтаралі Парыж — Трыпалі — Кейптаун.
**1.00.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 1-я серыя.
**2.05.** Пакінь непатрэбны клопат. Канцэртная праграма.

**Расійскі канал**

**8.00.** Весткі.
**8.20.** Французская мова. 1-ы год навучання.
**8.50.** Вольны час. «Увага, здымаю!»
**9.05.** Французская мова. 2-гі год навучання.
**9.35.** Дзіцячая гадзіна (з урокам французскай мовы).
**10.35.** Фільмы Ю. Подніекса. «Мы». Частка 2-я.
**11.30.** Пятае кола.
**13.15.** «Слова пра кошак». Праграма для дзяцей.
**16.00.** «Восень жыцця».
**16.15.** «Апошні шанц». Дак. фільм.
**17.15.** «Дзелавая жанчына».
**17.45.** Т. Ін. Ка.
**18.00.** «Ёлка. Крэмль і Новы год».
**19.00.** Рэформа для цябе.
**19.40.** Парламенцкі веснік Расіі.
**20.00.** Весткі.
**20.20.** Свята кожны дзень.
**20.30.** «Золата жабракоў». Фільм 1-ы «Саня». Пра алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Бялова.
**21.20.** Смешныя гісторыі. «Сам сабе рэжысёр».
**21.50.** «Свет зорак». Фільм пра рамантычныя лёсы пяці вядомых жанчын сучаснасці.
**22.40.** «Дзелавы кур'ер». Эканамічны веснік.
**23.00.** Весткі.
**23.30.** Аўташоу.
**24.00.** Грамадская думка.
**0.10.** Фільм-канцэрт з твораў А. Шнітке.

### 15 студзеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Дзівосныя азёры». Кінанарыс.
**9.00.** Беларуская літаратура. 9 клас.
**9.30.** Ліра.
**10.45.** «Баграціён». Маст. фільм. 2-я серыя.
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Маленькая чараўніца».
**17.40.** «Ліса, мядзведзь і мужык», «Муравейка Ціпа». Мультфільмы.
**18.00.** Дак. фільмы.
**18.15.** Подых палескай нівы. Пра справы меліяратараў трэста «Брэстводбуд».
**18.55.** Наш каментарый. «Страсці па купонах».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны.
**19.35.** Сустрэча са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевічам. Прамая лінія.
**20.25.** Калыханка.
**20.45.** «Шукай саюзнікаў у прыродзе». «Каралі галубкі». Дак. фільмы.
**21.30.** Біржавыя навіны.
**21.35.** НІКа.
**21.50.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Першая праграма**

**6.00.** Раніца.
**8.35.** Мультфільмы.
**9.10.** Дзіцячы музычны клуб.
**9.50.** Разам з чэмпіёнамі.
**10.05.** Маст. фільм «Іржа». 2-я серыя.
**11.00.** Дак. фільм «Бывай, зброя».
**11.30.** Канцэрт рускага народнага аркестра «Малахіт» г. Чэлябінска.
**12.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**12.20.** «Як дабіцца поспеху». Перадача 2-я.
**12.35.** Навукова-папулярны фільм «Народныя лекары».
**13.05.** Спорт для ўсіх.
**13.40.** «Хто як можа». Пра эстонскага мастака П. Мудзіста (Талін).
**14.15.** Тэлемікст.
**15.00.** Навіны.
**15.20.** «Сёння і тады».
**15.50.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 2-я серыя.
**17.00.** «Хто ж мы, немцы Сібіры ў 1990 годзе?» (Германія).
**18.00.** Навіны.
**18.20.** II Усесаюзны фестываль тэлепраграм для дзяцей і юнацтва. «Вясёлка надзей» (Мурманск).
**18.50.** Па законах рынку.
**19.30.** Шоу-праграма бальных танцаў.
**19.45.** Маст. фільм «Іржа». 2-я серыя.
**20.45.** Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Навіны.
**21.35.** «Лінія лёсу». Пра лёсы выдатных спартсменаў, якія пакінулі вялікі спорт.
**22.30.** Парадыз-кактэйль.
**24.00.** Навіны.
**0.20.** Міжнародныя спаборніцтвы па більярду.
**0.45.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 2-я серыя.

**Расійскі канал**

**8.00.** Весткі.
**8.20.** Нямецкая мова. 1-ы год навучання.
**8.50.** Вольны час. «Дамашні клуб».
**9.05.** Нямецкая мова. 2-гі год навучання.
**9.35.** Канцэрт аўтарскай песні.
**10.15.** Фільмы К. Подніекса. «Мы». Частка 3-я.
**11.10.** Жыццё і смерць В. Мандэльштама.
**12.10.** Сялянскае пытанне. «Нялёгкі чалавек».
**12.30.** Н. Садур. «Панначка». Спектакль.
**14.00.** Весткі.
**16.00.** «Кантакт». Пяць карцін Э. Бялюціна.
**16.30.** Школа менеджэраў.
**17.00.** Тэлеагляд «Далёкі Усход».
**17.45.** Т. Ін. Ка.
**18.00.** Кубак свету па плаванню.
**18.40.** «Ад агульнага да прыватнага». Аб праблемах прыватызацыі ў Расіі.
**19.00.** «Вытрымкі мінулых няздзейсненых дзён...» Паэты І. Карлаў і М. Кабакоў.
**19.40.** Вольны час. «Дай лапу, сябар!»
**20.00.** Весткі.
**20.20.** Свята кожны дзень.
**20.30.** Тварам да Расіі.
**20.50.** «А што ў кошыку?» Дак. фільм.
**21.00.** На сесіі Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі.
**21.30.** «Адзідас». Знаёмы незнаёмец.
**22.00.** Студыя «Нотабене».
**23.00.** Весткі.
**23.20.** «Другі ці шаснаццаты».

## НА ДВОР'Е

### 14 студзеня

Сёння ўдзень па большай частцы тэрыторыі рэспублікі пройдзе снег, мяцеліца, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 4—6, Гомелі — 3—5, Мінску — 2—4 градусы марозу, у Брэсце і Гродна — каля 0.

У наступныя двое сутак часам снег, месцамі мяцеліца, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы 2—7 градусаў марозу, удзень ад 0 да 5 градусаў марозу.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ — СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Закон Рэспублікі Беларусь аб падатку на паліва.**

**«Аб першачарговых мерах па забеспячэнню Рэспублікі Беларусь збожжам у 1992 годзе».** Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**Саюзная і рэспубліканская інфармацыя.**

**Гадавы бюджэт рабочага часу.** Каментарыі Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь.

**«Хутарок у спадчыну».** У рэспубліцы рыхтуецца закон аб прыватнай уласнасці на зямлю.

**«Кругагляд».** Міжнародная інфармацыя.

**«Зялёная аптэка».** Рэцэпты нетрадыцыйнай і народнай медыцыны.

**«Мы родам з цяжкага дзяцінства...»** Сустрэча з маладым артыстам Уладзімірам Маркіным, пераможцам тэлешоу «50×50».

**«Якім будзе «Арбат».** На пытанні адказвае галоўны канструктар аўтазавода «Масквіч».

**Шахматы, шашкі.**

**У канцы нумара.**

**Афіша дня.**

## ТЫРАЖ «СПОРТЛАТО»

Вынікі 2-га тыражу латарэі «Спортлато».

**«6 з 45»:**

43 — 24 — 26 — 33 — 19 — 41.

**«5 з 36»:**

33 — 13 — 28 — 34 — 7.

Галоўны рэдактар
У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: адказны сакратар Уладзімір Андрыевіч, першы намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63850. Зак. № 7.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.